На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

**Якуб Колас**

# Народная Воля

**№ 167 (749)**

Пятніца, 10 верасня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., па падпісцы — 11000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**Дожились...**

## Две пачки масла



Некуда намазывать икру и не на что приклеить кусочек сыра. В доме третью неделю нет сливочного масла. В магазинах — тоже. Только маргарин...

Как уверяют в управлении торговли, масло в магазины регулярно завозится. Например, столичный хладокомбинат №2 ежедневно отправляет в пять районов Минска 20 тонн масла.

Один руководящий работник торговли в доверительной беседе рассказал, что за двадцать пять лет его службы такое огромное количество сыра в продажу давно не поступало. А вот с маслом, по его словам, в это время года раньше перебоев никогда не было. Может быть, потребительская способность выросла. Может быть, это связано с закладкой его в закрома родины на зиму. Может быть, школьное питание много забирает. Может быть, дело в транспорте. Чтобы развезти масло по магазинам, нужно арендовать грузовое авто. Бензин дорогой, вовремя не проплатили, и развозить не на чем. Или водитель заболел. Или запил. С водителями сейчас тоже проблема: платят мало — работать не хотят. А может быть... Кто его знает, что еще может быть...

Магазин "Консул", например, заключил прямой договор на поставку масла с Березой. Раз в неделю сюда привозят двести килограммов масла. Отпускают, как и положено, по две пачки в руки. Все двести килограммов, как правило, расходятся за полтора-два дня...

Обойдя несколько столичных магазинов, а потом не поленившись обзвонить еще пару десятков торговых точек, масла я так и не обнаружила. Пришлось вспомнить старые времена... Знакомая директор одного универсама выделила мне, по блату, килограммовый кусок масла (невзирая на установленные нормы отпуска) да еще предложила добротную свиную вырезку по восемьсот тысяч за килограмм...

"Масло есть и будет. И в ближайшем будущем даже дорожать не будет. И несмотря на то, что белорусским маслом ящиками торгуют в Смоленске, страна без этого продукта не останется. Запас есть", — уверяют чиновники. Странно, если все это на самом деле так, то, может быть, кто-то ответит, почему этот продукт стало столь проблематично найти в наших магазинах?

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото IREX/ProMedia.**

**Официально**

## Достигнута принципиальная договоренность

8 сентября 1999 г. делегации от правительства Беларуси и политической оппозиции встретились в Международном образовательном центре в Минске. При посредничестве КНГ ОБСЕ они продолжали консультации о доступе оппозиции к государственным СМИ во время процесса подготовки к переговорам между правительством и оппозицией по вопросу свободных, справедливых, признаваемых международным сообществом выборов.

Правительственную делегацию возглавлял помощник президента Республики Беларусь Михаил Сазонов, в состав делегации также входили Евгений Матусевич, Елена Шниткова и Игорь Андреев. Делегацию со стороны оппозиции возглавлял руководитель Центра правовой защиты СМИ при Белорусской ассоциации журналистов Михаил Пастухов. Другие члены делегации: Владимир Нистюк, Юрий Топоращев и Владимир Глод. В качестве посредника выступал посол г-н Вик, руководитель КНГ ОБСЕ в Беларуси.

Стороны обменялись мнениями по вопросам освещения в прессе консультаций, которые прошли 3 сентября 1999 года. После обсуждения конкретных примеров каждая делегация согласилась с тем, что уровень освещения событий на принципах объективности и правдивости как государственными, так и негосударственными СМИ должен быть улучшен. Участники встречи выразили надежду на то, что дальнейшее освещение текущих консультаций и будущих переговоров будет проходить с соблюдением норм профессиональной этики журналистики.

Правительственной делегацией внесены предложения о предоставлении возможности выступления оппозиции в государственных СМИ. В ходе консультаций достигнута принципиальная договоренность о предоставлении в государственных электронных СМИ прямого теле- и радиоэфира, а также места в государственных газетах для выступления политической оппозиции. Со своей стороны г-н Сазонов предоставил список экспертов для участия в предстоящих консультациях по вопросу доступа к СМИ. Следующая встреча запланирована на 14 сентября 1999 года.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**Михаил САЗОНОВ.**

## У Мінюсце зарэгістраваныя дзве новыя грамадскія арганізацыі, звязаныя з імем Генадзя Карпенкі

Міністэрства юстыцыі Беларусі выдала рэгістрацыйныя пасведчанні двум новым грамадскім арганізацыям, звязаным з імем вядомага беларускага палітычнага дзеяча Генадзя Карпенкі, які памёр напачатку красавіка бягучага года. Мінюст зарэгістраваў Міжнароднае грамадскае аб'яднанне імя Генадзя Карпенкі і Міжнародную грамадскую арганізацыю "Дабрачынны фонд імя Генадзя Карпенкі".

Сярод заснавальнікаў гэтых арганізацый шмат вядомых у Беларусі людзей — паэт Ніл Гілевіч, палітыкі Станіслаў Багданкевіч, Сямён Домаш і іншыя. Прэзідэнтам Міжнароднага грамадскага аб'яднання імя Г.Карпенкі абрана ягоная жонка Людміла Карпенка, старшынёй выканкама гэтай арганізацыі стаў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Уладзімір Белякоў. Прэзідэнтам Дабрачыннага фонда імя Генадзя Карпенкі абраны пісьменнік Міхаіл Кацюшэнка, які на працягу многіх гадоў быў галоўным рэдактарам маладзёжнай газеты "Знамя юности".

Сярод мэт, якія ставяць перад сабою дзве новыя арганізацыі, — садзейнічанне сацыяльна-эканамічным і дэмакратычным рэформам у Беларусі, усталяванне станоўчага іміджу Беларусі ў міжнароднай супольнасці, дабрачынная дапамога і іншыя.

Як лічыць Міхаіл Кацюшэнка: "Я не хацеў бы сказаць, што новыя арганізацыі з'яўляюцца палітычнымі. У нас на Беларусі дастаткова палітычных партый. Мы ставім перад сабой мэты, за якія па сутнасці і змагаўся Генадзь Карпенка: гэта паляпшэнне жыцця людзей, падтрымка ў нашым грамадстве таго самага добрага, чаго так не хапае кожнаму чалавеку".

Рэгістрацыю гэтых арганізацый сябры і паплечнікі палітыка прысвячаюць ягонаму юбілею: 17 верасня Генадзю Карпенку споўнілася б 50 гадоў. У гэты дзень мяркуецца вечар памяці, у якім прымуць удзел вядомыя грамадскія, палітычныя дзеячы Беларусі, а таксама з замежных краін, пісьменнікі, артысты, спартсмены...

Галоўнае, у гэты дзень пра Генадзя Карпенку будуць гаварыць, як пра жывога.

**Уладзімір ГЛОД.**

**ТВАЯ ГАЗЕТА!**



Да 15 верасня можна аформіць падпіску на IV квартал

ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:
63222 - 420.000 у месяц
63429 - 360.000 (льготны)
63225 - 800.000 (ведамасны)

**Закуліссе**

## Пра "Панараму" і "Рэзананс"

З добра інфармаваных крыніцаў БелаПАН сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці прайшоўшых кансультацый. Яны, у прыватнасці, пачаліся з заявы прадстаўнікоў апазіцыі, якія звярнулі ўвагу на тое, што, нягледзячы на дасягнутую дамоўленасць аб фармаце інфармацыйнага забеспячэння, адзначаны факты інфармацыйнага скажэння ўзгодненага тэксту папярэдняга прэс-рэлізу КНГ ОБСЕ, а таксама ўніжальныя каментары па змесце вынікаў кансультацый. У якасці прыкладу былі прыведзены праграма "Панарама" ад 3 верасня і нядзельны выпуск перадачы "Рэзананс".

У сваю чаргу, прадстаўнікі ўрадавай дэлегацыі звярнулі ўвагу на недапушчальнае, на іхнюю думку, асвятленне перамоў у недзяржаўнай "Белорусской газете". Апрача таго, прадстаўнікі ад апазіцыі агучылі заяву Беларускай асацыяцыі журналістаў аб ціску на незалежныя СМІ, які працягваецца. У заяве гаворыцца аб тым, што распачатая праверка фінансавай дзейнасці шэрагу недзяржаўных выданняў, магчыма, звязана са спробай уладаў негатыўна паўплываць на працэс кансультацый.

Урадавы бок прадставіў склад экспертнай групы па пытаннях сродкаў масавай інфармацыі. Яе ўзначаліць галоўны рэдактар газеты "Советская Белоруссия" Павел Якубовіч. У групу таксама ўвайшлі начальнік упраўлення прававога забеспячэння Дзяржаўнага камітэта па друку Ігар Коваль, генеральны дырэктар інфармацыйнага агенцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Аляксандр Цітавец і саветнік-кансультант Алена Шніткова.

**БелаПАН.**

**Слышали?**

## Гончар трубит большой сбор

Исполняющий обязанности председателя Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Виктор Гончар планирует в понедельник, 13 сентября, провести встречу членов президиума с руководителями ряда политических партий. Из текста приглашения следует, что тема заседания — обсуждение условий переговорного процесса между официальными властями и политической оппозицией под эгидой Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Минске.

К разговору приглашены руководители девяти политических партий. Как полагает В.Гончар, такая встреча поможет оппозиции избежать разночтений, конфликтов, кривотолков... К тому же первые консультации, которые прошли 3 и 9 сентября, также дают пищу для размышлений.

К участию во встрече приглашен руководитель КНГ ОБСЕ в Беларуси посол Ханс-Георг Вик.

**Владимир КОТ.**

## "Мірон" у Віцебску?

У ноч з 6-га на 7-га верасня напярэдадні Дня беларускай вайсковай славы ў Віцебску на будынку ля плошчы Перамогі быў вывешаны бел-чырвона-белы сцяг. Ля моста на набярэжнай Дзвіны, а таксама Кастрычніцкі райвыканкам былі распісаны беларускімі лозунгамі.

Раніцай наведвальнікі Кастрычніцкага райвыканкама назіралі, як улады заціралі надпісы "Жыве Беларусь!", "Масква — цэнтр зла!" і іншыя.

**Ясь ЛІЦЬВІН.**

**Даслоўна**

## Паводле слоў Ул.Пуціна, Расія заўсёды будзе разглядаць Беларусь як стратэгічнага партнёра

"Нягледзячы на праблемы, існуючыя ў Расіі ў перадвыбарнай сітуацыі, глыбіня беларуска-расійскіх адносінаў такая, што, хто б ні быў на чале Расіі, Беларусь заўсёды будзе разглядацца як стратэгічны партнёр", — пра гэта заявіў прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам.

**Максім ЦІТОЎ.**

**Надвор'е**

10—11 верасня — пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер слабы. Тэмпература паветра ўначы — +8...+12, удзень — +20...+25.



Пр. Іова, Майсея.
К. Лукаша, Мікалая.

70 гадоў з дня нараджэння (1929) Я.А.Глебава, беларускага кампазітара, педагога, грамадскага дзеяча.

**ВЕРАСЕНЬ**

**10**

**'99 ПЯТНІЦА**

Усход 6.33
Захад 19.38
Даўж. дня 13.05

Маладзік 1.02
Усход 7.59
Захад 21.07



**Стоп-кадр**









Днямі ў рэдакцыю патэлефанаваў кіраўнік аднаго недзяржаўнага прадпрыемства:

— І што ж гэта робіцца? За адзін тыдзень — тры паперкі ад уладаў: на расшырэнне азімага кліна вобласці пералічы 200 мільёнаў, на ўпарадкаванне дарог пералічы... І вось патрабуюць на арганізацыю "Дажынак-99" пералічыць.

Так, любяць у нас абдзіраць людзей. Як, дарэчы, і святкаваць. Шуміць, гудзіць Шклоў — другая сталіца Беларусі (гл. здымкі). А што будзем адзначаць? Тое, што недаатрымалі 3,5—4 мільёны тон збожжа? Што зімой многія калгасы і саўгасы будуць без кармоў? Надвор'е вінавата? Не, справа не ў надвор'і...

**Вострая тэма**

*Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар*

## Русіфікацыя: міф ці рэальнасць?

*(Працяг. Пачатак у № 162 — 165.)*

### 5. Русіфікацыя ў поглядах інтэлігенцыі

Першыя "пераможныя" крокі расійскага ўрада па ўкараненні сваіх парадкаў на Беларусі пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага падтрымлівалі многія рускія вучоныя і "Абрусенне краю, гэта значыць выгнанне чужароднага паланізму з Заходняй Русі, — чытаем у Васіля Ратча, — з'явілася пільнаю патрэбаю ўсёй зямлі рускай". І далей. "Народнае жыццё ідзе наперад, і Заходняя Русь пасля пяці стагоддзяў разлукі рашуча вяртаецца ў нетры рускай айчыны"[1]. Што ж, такую ўзнёсласць чалавека лёгка вытлумачыць, калі ён не прасякнуты горам тых людзей, хто стаў аб'ектам шалёнай русіфікацыі.

Характэрна, што русіфікатарскую палітыку царызму на Беларусі падтрымлівала і тая частка рускай інтэлігенцыі, што адкрыта заяўляла пра сваю прыхільнасць да дэмакратычных парадкаў. Будучы добра дасведчаным, што для пасылкі на Беларусь, якая толькі што перажыла ў 1863—1864 гадах чарговы ўсплёск нацыянальна-вызваленчага руху, падбіраюцца чыноўнікі з чыста рускага асяроддзя, вядомы публіцыст, грамадскі дзеяч, славянафіл Іван Аксакаў звярнуўся да моладзі з такімі архіпатрыятычнымі словамі: "Няхай жа чэсная адукаваная моладзь, скончыўшы навуку ва універсітэце, накіруецца ў Заходні край са сваімі свежымі, бадзёрымі сіламі і з'явіцца там **місіянерамі рускай народнасці**"[2]. Выхаваная ў духу рускага вялікадзяржаўнага шавінізму моладзь не магла не адгукнуцца на гэты заклік вядомага чалавека.

Пад шкодным антыбеларускім уплывам рускіх палітыкаў і інтэлектуалаў знаходзіўся сёй-той і з нешараговых прадстаўнікоў нашага краю. Найчасцей такое назіралася сярод тых, хто заканчваў вышэйшую навучальную ўстанову ў цэнтральных губернях Расіі і працягваў там сваю прафесійную дзейнасць. Асабліва актыўную барацьбу з "беларускім сепаратызмам" вёў згаданы вышэй Міхаіл Каяловіч, які ў 1855 годзе скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, дзе затым выкладаў і атрымаў званне прафесара. Насуперак здароваму сэнсу ён разам з іншымі вучонымі сцвярджаў, што Маларасія і Беларусь — гэта старыя рускія вобласці[3], што "беларускае племя так блізка да вялікарускага, што аніякі сепаратызм не можа ў ім мець сілы". Таму ім прапаноўвалася на тэрыторыі Беларусі распрацаваць такія карэнныя рускія пачаткі, якія на векі вечныя злучылі б заходнюю (г.зн. Беларусь. — **Л.Л.**) і ўсходнюю Расію[4].

Заслугоўвае ўвагі і такое яго выказванне: "... калі хто з (маларосаў) і беларусаў (ліцвінаў) пераймае расійскую асвету ды мову, дык не робіцца праз гэта ворагам свайго племені, з якога выйшаў, а робячыся палякам, ён абавязкова дрэнна ставіцца да свайго племені"[5]. Тут ужо наш зямляк, як вынікае з яго слоў, адкрыта падыгрывае рускаму інтарэсу, не лічыцца ні з якімі законамі логікі. І нарэшце, прывядзём яшчэ адно сведчанне яго гульні ў паддаўкі са свецкімі і духоўнымі ўладамі Расіі: "Бязглузда было б нам дзяліцца на племянныя групы як істотна розныя, а тым больш праводзіць гэтае адрозненне ў народ. Гэта псавала б агульнарускае народнае адзінства і абцяжарвала б развіццё простага народу ў кожнай племяннай групе"[6].

Такая непавага М.Каяловіча да нацыянальна-адметнага ў культуры беларусаў, нежаданне забяспечыць ім усе ўмовы для суверэннага дзяржаўнага, нацыянальна-духоўнага развіцця надзвычай здзіўляе, бо ён жа быў сынам уніяцкага святара, а, як вядома, у сем'ях такой катэгорыі духоўнікаў вельмі шанавалі традыцыі беларускасці.

Даводзіцца канстатаваць, што толькі нешматлікія прадстаўнікі рускай інтэлігенцыі былі вольныя ад вялікадзяржаўнага шавінізму. Прагрэсіўнага, гуманістычнага погляду на нацыянальнае пытанне трымаўся адзін з заснавальнікаў і тэарэтыкаў анархізму Міхаіл Бакунін (1814—1876). У адрозненне ад многіх сваіх сучаснікаў ён не глядзеў на Беларусь як на тыпова рускі край. У брашуры "Народное дело" пісаў: "Хочам, каб Польшчы, Літве (меў на ўвазе этнічную Беларусь. — **Л.Л.**), Украіне, фінам і латышам прыбалтыйскім, а таксама і Каўказскаму краю была вернута поўная свабода і права распарадзіцца сабой і жыць па сваёй волі, без усялякага з нашага боку ўмяшальніцтва, простага ці ўскоснага. З гэтага, зразумела, не вынікае, што М.Бакунін быў супраць усялякага супрацоўніцтва гэтых народаў на выпадак атрымання імі той ці іншай формы дзяржаўнай незалежнасці. Сказанае пацвярджаецца наступнымі яго словамі: "Хочам братняга і, калі будзе магчыма, федэральнага саюза з Польшчай, Літвою, Украінаю, прыбалтыйскімі жыхарамі і з народамі Закаўказкага краю"[7].

За наданне нацыям права на самавызначэнне выступала створаная ў 1879 годзе ў Расіі тайная народніцкая арганізацыя "Народная воля". Для беларусаў асабліва важнае значэнне меў такі пункт з яе праграмы: **"Народы, гвалтам далучаныя да рускага царства, вольныя адлучыцца ці застацца ў агульнарускім саюзе"**[8].

Пад уплывам такіх поглядаў адукаваныя людзі нашага краю праяўлялі ўсё большую зацікаўленасць да яго мінулага, з болем у сэрцы глядзелі, як дэфармуецца духоўная спадчына, створаная многімі пакаленнямі. І вельмі важна, што сірочы стан беларускай нацыянальнай культуры і мовы ў сваёй роднай хаце ўжо хваляваў не толькі многіх прадстаўнікоў гуманітарнай інтэлігенцыі, пісьменнікаў. Да глыбіні душы закранаў ён, напрыклад, і нашага выдатнага вучонага-прыродазнаўца Бенядзікта Дыбоўскага, які быў катэгарычны ў аналізе сітуацыі: "Усе расійскія ўрадаўцы пагарджаюць беларускай мовай... Цяперашнія чыноўнікі і духавенства, прысланае з-пад цёмнай зоркі, уважаюць за абразу ўласнай годнасці вучыцца размаўляць па-беларуску". Сваёй — дзе тонка, а дзе дык і з ўсёй грубасцю праведзенай русіфікацыяй — царызм давёў наш край да таго, што "народ, — пісаў Б.Дыбоўскі, — паволі пачынае лічыць сваю мову не вартай вуснаў людзей вышэйшага класу; "мужыцкий язык", гаворыць і ім ужо размаўляць саромеецца".

Справядлівы голас рускай прагрэсіўнай інтэлігенцыі ў абарону нацыянальных правоў усіх народаў імперыі патанаў у магутных, раскацістых гуках, што нesліся з вуснаў шматлікіх прыхільнікаў вялікарускага шавінізму. Асаблівы размах набыла русіфікацыя пасля забойства ў сакавіку 1881 года імператара Аляксандра II. Гэты размах засведчаны ў працах многіх рускіх палітыкаў і вучоных, у іх ліку і Паўла Мілюкова, які пісаў, што "на працягу ўсяго царавання Аляксандра II нацыяналізм (рускі. — **Л.Л.**) зрабіўся афіцыйнай дактрынай, і **пачаліся першыя ў рускай гісторыі афіцыйныя ўрадавыя ганенні супраць цэлых нацыянальнасцяў...**"[9].

І на гэты раз расійскі ўрад знайшоў патрэбную яму для правядзення русіфікатарскай палітыкі падтрымку з боку шырокіх колаў інтэлігенцыі. Яны не ведалі меры ў апраўданні антынацыянальнага курсу царызму ў пытаннях мовы, адукацыі, бо разумелі, што замацаванне тут рускага фактару істотна аслабіць супраціўленне народаў працэсам асіміляцыі. Што гэта не мае аніякага апраўдання, не саромеліся публічна прызнаваць самыя аўтарытэтныя палітычныя і культурныя дзеячы, навукоўцы. С.Хамякоў, напрыклад, называў нікчэмнымі тых, хто не жадаў зліванца з рускім народам і ўсяляк імкнуўся "ўтрымаць сваю дробную самабытнасць".

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

Народная Воля 10 ВЕРАСНЯ 1999 г.

Независимая экспертиза



*Василий ШЛЫНДИКОВ, зам. председателя Объединенной гражданской партии, председатель Комиссии по экономической политике и реформам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.*

# Что может директор?

Ситуация в промышленности из-за проводимого экономического курса ухудшается с каждым днем. Резко растут долги предприятий, в том числе перед бюджетом и по заработной плате. Задолженность по доходам и поступлениям в бюджет на 1 июля 1999 г. составила 8,9 триллиона рублей. Кроме того, отсроченные суммы задолженности на 1 июля составили 7,5 триллиона рублей.

Правительство пытается скрыть неблагополучное положение не только от общественности, но и от специалистов. К прибыли относят разницу между реальным и официальным курсами рубля по отношению к иностранной валюте, не производят переоценку основных средств, многие виды расходов не относят на себестоимость и т.д. Но никакие ухищрения правительства по созданию хотя бы иллюзии статистического благополучия на предприятиях уже не помогают.

По состоянию на 1 июля 1999 г., по данным приукрашенной статистики, в республике было 2380 убыточных предприятий, или 21,5 процента от их общего числа. Сумма убытков по ним составила 38,5 триллиона рублей. Больше всего убыточных предприятий — каждое третье — в Могилевской области. Остальные вроде имеют какую-то прибыль, рентабельность составила аж 18,4 процента, а при этом, как уже говорилось выше, долги предприятий растут, как снежный ком. Так дорегулировали экономику, что директора (а они в большинстве своем инженеры-механики) не могут понять, что происходит. На бумаге вроде прибыль, а платить налоги и зарплату нечем. Такого хаоса, как сейчас, не было никогда. Баланс предприятия был более или менее достоверен всегда. Он, правда, не учитывал инфляции, какие-то расходы не относили на себестоимость, но по крайней мере цифры по прибыли приблизительно соответствовали общепризнанным критериям этого экономического термина. Сейчас же "прибыль" белорусского предприятия и близко не соответствует смыслу этого слова. Сейчас это некая абстрактная величина, которая выполняет скорее не экономическую, а идеологическую функцию, вводит в заблуждение руководителей предприятий, создает у них иллюзию благополучия. "Прибыль" у нас растет так же, как и доходы населения. Но жить нужно, зарплату платить надо. Поэтому каждый директор пытается что-то делать, чтобы как-то свести концы с концами. Цель этой статьи — попытаться разобраться: созданы ли государством условия и возможности для того, чтобы директор, управленцы предприятия могли бы осуществить необходимый комплекс мер для повышения эффективности работы предприятия?

Начнем с необходимости совершенствования продукта, производимого предприятием. Согласитесь, что без конкурентоспособного продукта, который мог бы продаваться на рынке, говорить о будущем предприятия нельзя. Предприятие, не способное производить изделие, которое покупали бы, обречено. Чтобы создать такой продукт, нужны современные материалы, комплектующие, технологии, оборудование. Все это есть на Западе. Но как конвертировать свой рубль? Для любого директора не только западных стран, но и Польши, Литвы, Латвии, Эстонии, Чехии, Венгрии, даже России это не проблема.

Любые деньги любой страны— пожалуйста. Для нас же это невозможно. Попробуйте купить валюту, даже на командировку. Что происходит, если валюту предприятие заработает, подробно описано в статье "Есть ли у предприятий шанс выжить?" (Народная воля, № 153 от 21 августа 1999 г.).

Возьмем другую проблему — излишние, ненужные основные фонды, в том числе и так называемые социальные объекты. Наивно думать, что можно конкурировать на мировых рынках, имея нагрузку в виде содержания социальных объектов: детских садов, больниц, жилых домов и т.д., неиспользуемых производственных корпусов, станков. Может ли директор предприятия как-то распоряжаться всем этим? Может, конечно. Но, чтобы, скажем, законсервировать или продать тот или иной объект (если его еще кто-то купит), нужна масса времени на всевозможные согласования. Кому продать, например, ненужные производственные корпуса? Процесс создания и развития частных предприятий в Беларуси остановлен. Государственным предприятиям ничего не нужно. Некому покупать. Никому ничего не нужно.

Ситуацию характеризует такой эпизод. Случайно мне пришлось посетить одну белорусскую частную фирму. Арендуемый прекрасно оснащенный офис, молодые интеллигентные, умные ребята — владельцы и руководители фирмы. На мой вопрос: почему бы вам не построить или купить офис? — директор ответил, что покупать в нашей стране имущество — это большой риск, вероятнее всего его рано или поздно придется потерять. Поэтому, чтобы избежать риска, фирма стремится как можно меньше иметь собственного имущества. У них даже компьютеры взяты в лизинг и принадлежат иностранной лизинговой компании. Единственное ценное собственное имущество — это быстроходный иностранный автомобиль, чтобы можно было в любой момент уехать из страны. И стоит годами, медленно разрушаясь, или используются частично множество производственных промышленных зданий и сооружений. Предприятия вынуждены платить налог на имущество, нести расходы на их содержание. Аналогично тому, как Россия несет затраты на содержание мавзолея Ленина — пользы никакой, только вред. Хотя можно было бы в этих простаивающих корпусах, продав их частным фирмам, создать сотни тысяч новых рабочих мест, избавить предприятия от непосильной ноши.

Не может директор провести также реструктуризацию собственного завода, превратить его в рыночную структуру — компанию. В Беларуси практически остановлено акционирование предприятий, отсутствуют необходимые законы для преобразования, скажем, тракторного завода, в концерн. Налоговое законодательство препятствует также созданию концернов, холдингов, других хозяйственных объединений, заставляет уже существующие хозяйственные объединения самоликвидироваться.

Не может директор белорусского предприятия и сократить численность персонала, если сокращается рынок сбыта его продукции. Наше государство вместо организации новых рабочих мест, поощрения с этой целью малого предпринимательства пошло по самому легкому и неэффективному способу решения проблемы занятости населения — ввело запрет на сокращение излишней численности. От безделья разлагаются целые коллективы, предприятия буквально разоряются, так как за выплаченной и невыплаченной зарплатой следуют огромные налоги.

Ухудшается экономическая ситуация в Беларуси и России. Как следствие — сокращается рынок как внутри страны, так и в России. Что делать предприятиям? Правильно, продавать как можно больше на экспорт в западные и другие страны. Но государство обложило экспорт дополнительным налогом в размере 22 процентов через механизм различных курсов валют, и экспорт стал крайне невыгодным. Остается еще одна возможность — бартер. Но недавно ввели налог и на бартер. Предприятиям остается или производить конкурентный товар, который можно продать и с дополнительным налогом, что для большинства из них невозможно, или просить чиновников смилостивиться и сделать исключение — освободить от налогов, или молить Бога, чтобы что-то произошло и беда прошла мимо предприятия. Но чудеса бывают крайне редко.

Положение усугубляется отсутствием сколь-нибудь существенной мотивации труда управленцев, инженерно-технических работников и рабочих наших заводов и фабрик. Зарплата в 30—40 долларов не добавляет энтузиазма и трудового рвения никому. Да и зарплата директоров крупных предприятий не только мизерная, но даже смешная по сравнению с пособиями безработных в цивилизованном мире. В том мире, куда нас не поведут. А любое управленческое решение в создавшихся условиях — это огромный риск. И в случае неудачи это, по белорусской практике, — тюрьма для директора на потеху электората режима.

Что остается делать директору, если он не в состоянии организовать разработку и производство нового конкурентоспособного продукта, не может продать или даже организовать эффективное использование имеющегося имущества, не может привести численность работающих в соответствие с потребностями рынка, не может преобразовать завод в рыночную структуру, не может продавать производимый продукт на экспорт? А при этом ни у сотрудников, ни у него самого нет мотивации к эффективному труду. В принципе для директоров осталось три варианта:

первый — пытаться что-то делать без надежд на успех, при этом неизбежно нарушая какие-то указы, декреты, законы, и держаться, пока не будут проедены все запасы;

второй — пытаться объединиться и через свои общественные союзы объяснить власти, что она, мягко говоря, делает не то, что надо было бы. Если власть не поймет (что наиболее вероятно), стать в оппозицию к власти. Но духу, похоже, у наших директоров на это не хватит. Очень уж популярно власть объяснила, что будет с такими оппозиционерами;

третий — готовить для себя запасную площадку, при первой возможности уйти с занимаемой должности и передать свой пост новому романтику.

Есть еще один вариант: повесить у себя в кабинете большой портрет известного нам человека и просить милосердия. Отдельные так и поступают. Если в кабинете директора повесили такой портрет, значит, у этого предприятия большие проблемы. Чем больше портрет, тем больше проблем.

("Аналитическая группа Z".)

## Адбылося афіцыйнае адкрыццё прадпрыемства МАЗ-МАН

Пасля завяршэння пробнай зборкі, 8 верасня ў прысутнасці Аляксандра Лукашэнкі адбылося афіцыйнае адкрыццё вытворчасці на сумесным беларуска-германскім прадпрыемстве МАЗ-МАН. МАЗ-МАН вырабляе дзвюхвосныя цяжкія седлавыя цягачы для рэгіянальных і міжнародных аўтамабільных перавозак (з колавай формулай 4х2) магутнасцю рухавікоў ад 370 да 400 конскіх сіл, адпавядаючыя нормам Еўра-2 або Еўра-1 па выбару заказчыка. Грузавікі, выробленыя з выкарыстаннем галоўных кампанентаў з праграмы канцэрна МАН, адпавядаюць сучасным тэхнічным стандартам, уключаючы еўрапейскія нормы па выхлапе і шуме.

**Аляксей АРЭШКА.**



"Позвольте Вам налить, Станислав Антонович...". Лидер ОГП Станислав Богданкевич (слева) и председатель Белорусской социал-демократической Грамады Станислав Шушкевич в офисе ОБСЕ в Минске.

**Фото IREX/ProMedia.**

## "Тэлефонны тэрарыст"

### Амаль на шэсць гадзін быў прыпынены рух цягнікоў па асноўным чыгуначным мосце ў Гомелі ў выніку дзеянняў невядомага зламысніка

8 верасня, з 6.45 да 12.30, быў прыпынены рух цягнікоў па асноўным чыгуначным мосце праз раку Сож у Гомелі. Паток цягнікоў паўднёвага накірунку праходзіў па запасным мосце, які валодае значна меншай прапускной здольнасцю і размешчаны далёка ад горада, што выклікала парушэнні па часе ў руханні цягнікоў. Усё гэта было выклікана тым, што раніцай па спецлініі міліцыі "02" паступіла паведамленне невядомага аб замініраванні чыгуначнага моста.

Адразу ж рух цягнікоў быў прыпынены, а праз сорак хвілін абследаваннем моста занялася група сапёраў. Як паведаміў БелаПАН дзяжурны Гомельскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце, паведамленне аб замініраванні не пацвердзілася. "Тэлефоннага тэрарыста" знайсці пакуль не ўдалося.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Открытым текстом

# И здесь "пятая графа"...

Личность Героя Советского Союза, подводника №1, опального в свое время капитана 3-го ранга Александра Маринеско всегда привлекала большой круг читателей. О нем уже немало написано, но подрастают новые поколения, которым надо знать о подвиге этого незаурядного человека. С этой точки зрения публикацию в газете "Славянский набат" (№24, 1999) "Личный враг фюрера" можно было бы только приветствовать. Но есть там "ложка дегтя", которая сводит на нет усилия автора, капитана 2-го ранга в отставке Андрея Кольчика, осмыслить подвиг Александра Маринеско. В заключительной части публикации глубокомысленно утверждается: "Флот держался на славянах: русские, украинцы, белорусы", (выделено мной — **М.Н.**). И далее: "Гибельно позволять кому бы то ни было хозяйничать в своем доме, ибо никогда гражданин Израиля Березовский не станет объединять славянские народы".

Какое отношение имеют эти пассажи с явно шовинистическим душком к личности Маринеско? Вот уж поистине: "В огороде — бузина, а в Киеве — дядька". Сам ли автор додумался до них или ему их добавили в редакции в качестве идеологической приправы, — не столь уж важно. Важно другое: эти утверждения отнюдь не способствуют созданию нормального нравственного климата в многонациональном обществе. Скорее наоборот.

Понимаю, что еврей Березовский, очень богатый человек и влиятельный политик, — весьма удобная мишень для "Славянского набата". На ней можно безнаказанно оттачивать враждебные чувства ко всему еврейскому народу. (Вот они, какие нехорошие эти евреи! Захватили в России власть и командуют в нашем славянском доме).

Прием, скажу прямо, примитивный. Тем более, что газета не гнушается и заведомой ложью. Борис Березовский — гражданин не Израиля, как утверждает "Славянский набат", а России, и в этом своем качестве имеет право участвовать в политической жизни страны, как и любой ее гражданин.

Ложно и безнравственно по своей сути и утверждение о том, что флот держался на славянах. А я-то, прослужив в Вооруженных силах четверть века, думал, что флот, как и остальные виды войск, держался и держится прежде всего на людях воинского долга, отваги, мастерства. Ан нет! Если верить "Славянскому набату", эти качества свойственны исключительно славянам. Иными словами, мерило воинской доблести — пресловутая "пятая графа".

Что касается Маринеско, тут у "Славянского набата" вышла явная неувязка. Знают ли в этой газете, что знаменитый подводник — славянин лишь наполовину? Его отец — румын. Фамилия Маринеско — производное от Маринеску. В СССР в 30-е годы с румынской фамилией жить было опасно: бдительные "органы" по спущенным "сверху" разнарядкам могли определить в ГУЛАГ или даже подвести к "высшей мере". Поэтому и пришлось поменять в фамилии букву.

Писатель Александр Крон, близкий друг героя-подводника, "открывший" его для миллионов читателей в своей прекрасной книге "Капитан дальнего плавания", писал, что Саша Маринеско, детство и юность которого прошли в многонациональной Одессе, терпеть не мог проявлений малейшего шовинизма. Он сам пострадал от этой мерзости. Летом 1938 года его румынское происхождение стало причиной внезапного увольнения из Военно-морского флота. Правда, вскоре он был восстановлен в кадрах (нашелся здравомыслящий начальник, просматривавший его личное дело), но этот рубец остался в душе моряка на всю жизнь.

Флот в годы Великой Отечественной, как и во все советские времена, был многонациональным. Там, кроме русских, украинцев и белорусов, служили грузины, армяне, азербайджанцы, татары, евреи, башкиры, узбеки, казахи и люди многих других национальностей. И совершали подвиги, не уступая в доблести славянам.

Коль речь идет о флоте и зная, что "Славянский набат" часто обращает свой недобрый прищур на евреев, напомню о том, что уже стало историей.

На Северном флоте в годы войны гремело имя командира подводной лодки М-172 Израиля Фисановича. Его "Малютка" первой среди подводных лодок Северного флота прорвалась в сильно охраняемый фиорд и пустила ко дну транспорт противника. А всего на счету "Малютки", которой командовал Герой Советского Союза И.Фисанович, 14 потопленных вражеских кораблей. Его именем названа улица в городе Полярном.

Ассом-подводником зарекомендовал себя и Герой Советского Союза капитан I ранга Самуил Богорад (кстати, уроженец Витебска). Зимой 1945 года на Балтике Щ-310 под его командованием, прорывая мощное охранение противника, за два похода потопила семь вражеских кораблей. Всего "щука" Богорада отправила на дно 11 фашистских кораблей.

Героический подвиг совершил на Северном флоте в апреле 1944 года морской летчик, заместитель командира эскадрильи капитан Илья Катунин. На подходе к цели его самолет был подбит. На горящем торпедоносце он таранил транспорт противника и потопил его. Илье Катунину посмертно присвоено звание Героя Советского Союза, он навечно зачислен в списки 1-й эскадрильи минно-торпедного авиационного полка.

Это далеко не все евреи — Герои Советского Союза, служившие в Военно-морском флоте. А сколько героев дали другие неславянские народы! Приписывать воинскую доблесть только избранному этносу, "не замечая" ее у представителей других народов, значит проявлять неуважение к ним. Это расистский подход со всеми вытекающими отсюда последствиями.

За ура-патриотической риторикой "Славянского набата" во всей своей неприглядности проступает великодержавное чванство. В данном случае разменной монетой в этом малопочтенном занятии стало славное имя Александра Маринеско.

Грустно и тошно от подобных "изысков".

**Михаил НОРДШТЕЙН,**
**ветеран Вооруженных сил.**

## У беларускага і польскага бакоў няма сур'ёзных рознагалоссяў па праекце Дагавора аб рэжыме дзяржаўнай мяжы

Такі вывад зроблены спецыялістамі Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, якія прааналізавалі вынікі перамоў, прайшоўшых напрыканцы мінулага тыдня ў польскім горадзе Супрасле пад Беластокам. Беларускую дэлегацыю на іх узначальваў памочнік старшыні Дзяржкамітэта пагранвойскаў палкоўнік Анатоль Чырак, польскую — намеснік дырэктара ўпраўлення аховы дзяржаўнай мяжы Галоўнай камендатуры пагранічнай варты палкоўнік Зігмунт Станішэўскі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, дагавор вызначае парадак вядзення на мяжы або паблізу ад яе гаспадарчай дзейнасці, карыстання памежнымі водамі, абазначэнне мяжы на мясцовасці, а таксама рэгламентуе пытанні ўтрымання дзяржаўнай мяжы.

Што да маючых месца яшчэ паміж бакамі рознагалоссяў па праекце дагавора, то, як адзначылі ў прэс-цэнтры Дзяржкамітэта, яны, у прыватнасці, тычацца парадку правядзення абследавання абазначэння мяжы на мясцовасці на прадмет адпаведнасці дэмаркацыйным картам, праходжання мяжы на ўчастках праточных вод, ажыццяўлення будаўніцтва новых мастоў, плацін і іншых збудаванняў, якія перасякаюць мяжу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Кантралёры выявілі шмат няякаснага мяса

Амаль 2 тоны няякаснага мяса знайшлі работнікі Камітэта дзяржаўнага кантролю (КДК) Магілёўскай вобласці падчас праверкі Чавускага раённага спажыўсаюза. Восем работнікаў спажывецкай кааперацыі раёна былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

Правяраючыя выявілі ў працы кааператараў Чавускага раёна вялікую колькасць недахопаў, звязаных перш за ўсё з нізкай выканаўчай дысцыплінай. Так, згодна з афіцыйным заключэннем, на момант праверкі не праводзіўся радыёметрычны кантроль субпрадуктаў, былі парушаныя тэрміны і ўмовы захоўвання мяса. Пасля разгрузкі аўтамашыны ў каўбасным цэху камбіната кааператыўнай прамысловасці раёна было ўстаноўлена, што больш за 1,5 тоны дастаўленай ялавічыны не адпавядаюць патрабаванням нарматыўных дакументаў па якасці апрацоўкі. Аналагічныя неадпаведнасці патрабаванням мелі 300 кілаграмаў свініны. У выніку, усё гэтае мяса пры прыёмцы ў каўбасны цэх было забракавана. Паводле слоў работнікаў КДК, цяпер яно можа быць выкарыстана толькі ў якасці корму ў зверагаспадарках.

Не адпавядала патрабаванням дзеючых нарматыўных дакументаў і мяса, якое паступае з жывёлабойнай пляцоўкі для перапрацоўкі ў каўбасны цэх камбіната кааператыўнай прамысловасці Бялыніцкага райспажыўсаюза. Тут да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя тры адказныя работнікі.

**Канстанцін УВАРАЎ.**



Национальный банк Республики Беларусь ввел в обращение расчетный билет достоинством 5.000.000 рублей образца 1999 года.

Сюжет основного изображения лицевой стороны банкноты — здание Дворца спорта в Минске.

**На снимке:** *новая банкнота 5.000.000.*

**Фото IREX/ProMedia.**

Стоп-кадр



Этот кадр сделан на митинге патриотических сил в поддержку усилий Лукашенко по созданию союзного государства. С портретами Александра Григорьевича здесь, в основном, стояли одни старики.

Они надрываются на подобных митингах, выкрикивая очередные проклятия тем, кто "мешает президенту сделать жизнь лучше". Говорят, переживают за будущее своих детей и внуков...

Старики ни за что не хотят понимать, что как раз-таки их внуки и дети выбрали иной путь. Старшее поколение сложно в этом убедить... Как, впрочем, и сложно разобраться в истинных мотивах поведения некоторых стариков...

**Фото IREX/ProMedia.**

## Цяпер прыйдзецца выкласці 60 тысяч рублёў за 1 км прабегу

Загадам Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі верхні межавы ўзровень тарыфу за прадастаўленне паслуг легкавымі аўтамабілямі-таксі зацверджаны ў памеры 60 тысяч рублёў за 1 км прабегу, што на 20 тысяч рублёў больш за той, што дзейнічаў дагэтуль. Верхняя мяжа за 1 гадзіну прастою ў кліента зараз больш на 200 тысяч і складзе 600 тысяч рублёў; за кожную паездку (пры ўключэнні таксометра) звыш аплаты за прабег і прастой плата навялічыцца на 20 тысяч — да 60 тысяч рублёў. Як адзначаецца ў загадзе Мінтранса, дадзенае рашэнне абумоўлена "ростам цэн на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння і паліўна-энергетычныя рэсурсы". Нагадаем, што апошні раз межавы ўзровень тарыфаў на перавозкі легкавымі аўтамабілямі-таксі павышаўся ў ліпені бягучага года з 30 да 40 тысяч рублёў.

**Аляксей АРЭШКА.**

# Русіфікацыя: міф ці рэальнасць?

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

Не дзеля аб'ектыўнасці выкарыстоўваў веды, якія здабыў падчас вучобы ў Маскоўскім універсітэце і за час працы, рускі мовазнаўца акадэмік Аляксей Сабалеўскі. Пераконвае ў гэтым яго наступнае сцвярджэнне: "Калі мы возьмем усю масу вялікарускіх гаворак (з уключэннем сюды і беларускіх, таму што беларуская гаворка ёсць, зразумела, частка вялікарускай гаворкі), і параўнаем іх з усёй масаю маларускіх гаворак, то грунтоўнае параўнанне асаблівасцей тых і другіх не дае нам падставы бачыць у кожнай групе асаблівую самастойную мову"[10]. Сёння даказаць памылковасць такога погляду не складзе асаблівай цяжкасці нават для студэнта першага курса філалагічнага факультэта...

Бадай, не меў сабе роўных у тэарэтычным абгрунтаванні неабходнасці далейшага паглыблення русіфікацыі ў нацыянальных раёнах Расіі прафесар П.Кавалеўскі, шырокую вядомасць якому прынесла кніга "Национализм и национальное воспитание в России в двух частях". У 1912 годзе яна ўжо з'явілася на свет як трэцяе, дапоўненае выданне. Ён настойліва пераконваў улады і грамадства ў тым, што "мова ў школе, у судзе, у дзяржаўных і справавых зносінах у Рускай дзяржаве павінна быць **безумоўна і непахісна рускай.** Гэта мова пануючай дзяржаўнай нацыі, і гэтую мову павінны ведаць усе супадпарадкаваныя народы. Гэты пункт вельмі вялікай важнасці і ўступак тут не павінна быць аніякіх.

(...) выкладанне ва ўсіх школах павінна абавязкова весціся на рускай мове" (с.357—359).

Такія парады і такая падтрымка палітыкі русіфікацыі вельмі па душы былі дзяржаве. Яна няўхільна працавала над тым, каб гэтыя "высакародныя ідэі" станавіліся рэальнасцю. Не толькі ў межах славянскіх губерняў Расійскай імперыі, але практычна і ва ўсіх яе нацыянальных рэгіёнах панаванне рускай мовы ў эканамічным, грамадска-палітычным жыцці, а галоўнае — у адукацыі рабілася фактам неаспрэчным. Аднак палітыкі, вучоныя афіцыйнага толку аж да самых кастрычніцкіх падзей 1917 г. нястомна заклікалі дзяржаву не аслабляць сваю ўвагу да далейшага ўмацавання пазіцый рускай мовы.

Як толькі маглі, утойвалі ад народаў праўду аб іх нацыянальнай гісторыі. Пашырэнне тэрыторыі Расійскай імперыі за кошт анексіі чужых тэрыторый выдавалася як прагрэсіўны акт для іх насельніцтва. Асабліва шырока распаўсюджваўся такі міф у дачыненні да нашага краю. У Расіі заўсёды былі гісторыкі, якія не стамляліся сцвярджаць аб спрадвечным імкненні беларускага народа жыць у адной дзяржаве з рускімі, у што, думаю, нават не верылі самі расійскія імператары. Каб усё было так, як хацелася гэтым гісторыкам, не існавала б патрэбы ствараць у 1832 годзе "Асобага камітэта па справах заходніх губерняў", у склад якіх уваходзіла ўся тэрыторыя Беларусі. У мэтах надзейнага ўтрымання яе сюды пачалі планамерна перасяляць рускіх дваран і казённых сялян. У паасобныя гады XIX ст. у беларускіх губернях дыслакавалася да 200 тысяч рускіх вайскоўцаў. У іх абавязкі ўваходзіла не толькі абарона заходніх межаў Расійскай імперыі, але і намер не дапусціць нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, падобнага на паўстанне 1863—1864 гадоў.

Пазней фальсіфікацыям рускіх гісторыкаў дасць справядлівую ацэнку вядомы дзяржаўны дзеяч, старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР Аляксандр Чарвякоў: **"Усё тое, што так ці інакш гаварыла аб былой гісторыі Беларусі, што так ці інакш магло напамінаць, што Беларусь не ёсць Расія — усё гэта нішчылася, праследавалася, выпальвалася агнём ды жалезам"**[11].

Зараз адбываецца адыход ад такіх поглядаў. Сённяшнія палітыкі і заангажаваныя сучаснымі ўладамі вучоныя, каб зняць усе перашкоды на шляху інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі, не любяць згадваць аб фактах непрыязных адносін, выкліканых правядзеннем урадам апошняй дыскрымінацыйнага курсу ў дачыненні да беларусаў, адмаўляюць усялякія нацыянальныя адрозненні паміж імі і рускімі, не прызнаюць нават з'явы самой русіфікацыі. Але, каб не было на самай справе мэтанакіраванай палітыкі русіфікацыі, згаданы вышэй рускі дзяржаўны дзеяч і вучоны Павел Мілюкоў не параўноўваў бы Расійскую імперыю "з этнаграфічным музеем, у якім... адміралі і канчаткова асімілёўваліся рэшткі народнасцяў — а іх налічвалася каля 100, — якія бралі ўдзел у гістарычным працэсе на Усходне-Еўрапейскай раўніне"[12].

Нацыянальна-спецыфічнае Беларускага краю нішчылася не толькі праз мэтанакіраванае ўкараненне тут рускіх культурна-моўных стандартаў, сістэмы народнай адукацыі. Яго насельніцтву ўвесь час навязвалася расійская форма ладу жыцця. Што чакала Беларусь з усходу ў час, калі пасля задушэння паўстання 1863—1864 гадоў пачаў спадаць польскі ўплыў на яе, вельмі добра паказаў А.Цьвікевіч: "Ішла Расія па чыгунках, па незлічоных станцыях, што аселі па Беларусі на самых неспадзяваных месцах, ішла паравозамі і вагонамі, у асобе машыністаў, кандуктараў, інжынераў і падрадчыкаў з кукардамі і форменнымі гузікамі; ішла па судах, па казённых палатах і ўсіх гарадзкіх установах; ішла па паліцыі, па валасных кіраўніцтвах; перавальвалася ў сотнях тысяч пудоў грузаў, што наплывалі ў край чыгункай, ракой і шашой; насоўвалася ў вялізным звароце гандлю ў банках, у банкірскіх канторах; ішла па пошце; наварачвалася сотнямі воінскіх цягнікоў, нагружаных салдатамі з гармонікамі, з заліхвацкімі чужымі песнямі, замацоўвалася ў дывізіённых штабах, у велізарнейшых інтэнданцкіх складах і вайсковых кашарах, дзякуючы якім Беларусь абарачвалася ў нейкую бясконцую крэпасць; урэшце — пачала ўсё больш і больш націскаць па царквах, школах, кнігах.

...Тое, што на працягу цэлага стагоддзя было не пад сілу імператарскаму расійскаму ўраду з яго крывавым дэспатычным рэжымам, — ператварэнне Беларусі з польскага краю ў край "истинно-русский", — тое бяскроўна і без шуму пачаў рабіць расійскі капітал з яго фабрыкамі, заводамі і канторамі"[13].

Найвялікшая наша трагедыя заключаецца ў тым, што накшталт паланізацыі і русіфікацыя дарэвалюцыйных часоў ахапіла насельніцтва не якой-небудзь перыферыйнай часткі беларускіх земляў на сумежжы з Расіяй, хаця акурат тут найбольш інтэнсіўна праходзілі асіміляцыйныя працэсы, а спрэс усю тэрыторыю Бацькаўшчыны; што накшталт паланізацыі і русіфікацыя займалася этнічнай пераплаўкай не якіх-небудзь "адкідаў грамадства", а самай элітарнай катэгорыі беларускай нацыі — інтэлігенцыі. Калі ва ўсіх цывілізаваных народаў апошняя з'яўлялася іх сапраўдным павадыром, актыўным носьбітам культурна-моўных традыцый, у нас яна ў пераважнай большасці жыла паводле рускіх нацыянальна-духоўных стандартаў.

Такая дэнацыяналізаваная інтэлігенцыя фарміравалася не толькі за кошт выпускнікоў рускамоўных гімназій і семінарый. У яе паступова пераўтвараліся, працуючы ў рускамоўных установах, мясцовай адміністрацыі, судах і г.д., і тыя адукаваныя колы беларускага народа, што раней паспелі адарвацца ад яго і засвоіць польскую культуру і мову. Цяпер жа ім усе гэтыя запазычаныя ў палякаў духоўныя каштоўнасці патрэбна было згодна з родам прафесійных заняткаў мяняць на рускія адпаведнікі. Усё, што давялося перажываць беларусам ад дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі да кастрычніка 1917 года, нельга назваць іншымі словамі, як нацыянальная катастрофа. Ад гэтай злыбяды не збіраліся ратаваць нас і тыя, што прыйшлі да ўлады ў выніку кастрычніцкага перавароту.


1. **Наша слова. 1997. 13—19 лютага.**
2. **Ратч Василий. Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западной России. Т.I. Вильна. 1867. С.255, 260.**
3. **Цытавана па кн.: Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця. Трэцяе выданне. Мн., 1927. С.150.**
4. **Коялович М.О. История русского самопознания по историческим памятникам и научным сочинениям. СПб. 1884. С.134.**
5. **Коялович М.О. Чтения по истории Западной России. СПб. 1884. С.19, 20.**
6. **Цытавана па час. "Бальшавік Беларусі". 1931, №2. С.26.**
7. **Коялович М. Поездка в Западную Россию//Церковный Вестник. 1886. №49. С.788.**
8. **Бакунин Михаил. Избранные сочинения. Т.III. П.—М., 1920. С.89.**
9. **Там жа.**
10. **"Народная воля" в документах и воспоминаниях. М., 1930. С.222.**
11. **Милюков П.Н. Национальный вопрос. Берлин, 1925. С.159.**
12. **Соболевский А.И. Лекции по истории русского языка. Изд.4-е. М., 1907. С.2.**
13. **Парэчын Г. Ідэя беларускае дзяржаўнасці перад утварэннем Савецкае Беларусі//Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы катэдры сучаснага права. Т.1. Мн., 1929. С.1.**
14. **Милюков П.И. Национальный вопрос. С.150.**
15. **Цьвікевіч А. "Западно-русская" школа і яе прадстаўнікі //Полымя. 1928. №7. С.132.**


*(Заканчэнне будзе.)*

